# ШТО НОВАГА?

## ШТО ТОІЦЦА ЗА ПЕРАМЯШЧЭННЯМІ Ў КІТАІ

Нядаўна афіцыйны прадстаўнік кітайскіх улад пацвердзіў журналістам, што зроблены новыя назначэнні на пасады начальніка Генеральнага штаба і начальніка Галоўнага палітычнага ўпраўлення кітайскай арміі. Імі сталі Дэн Сяо-пін і Чжан Чунь-цяо. Абодва яны з'яўляюцца таксама намеснікамі прэм'ера Дзяржаўнага савета КНР.

Гэтыя назначэнні завяршаюць цяперашнюю серыю пeратасовак у вышэйшых ваенных сферах краіны. У канцы мінулага і ў пачатку гэтага года сталі вядомыя імёны і чатырох новых намеснікаў начальніка Генеральнага штаба і кіраўнікоў шэрагу галоўных упраўленняў (ВПС, тылу і інш.). У сярэдзіне студзеня на сесіі Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў быў зацверджаны ў пасадзе новы міністр абароны Е Цзянь-ін.

У адпаведнасці з прынятай на сесіі УСНП новай канстытуцыяй краіны агульнае кіраўніцтва ўзброенымі сіламі Кітая перададзена ў рукі Мао Цзэдуна.

Ацэньваючы значэнне ўсіх гэтых змен, замежныя назіральнікі ў Пекіне звяртаюць увагу перш за ўсё на той факт, што практычнае кіраўніцтва арміяй і штодзённы кантроль над ёю рассканцэнтроўваюцца з гэтага часу паміж прадстаўнікамі некалькіх сапернічаючых паміж сабой груповак, ні адна з якіх не атрымлівае пераважных пазіцый.

Усё гэта звязваюць у першую чаргу з намерам пазбегнуць канцэнтрацыі ваеннай улады ў руках якога-небудзь аднаго дзеяча, як гэта было пры Лінь Бяо.

У той жа час робяцца спробы ўзмацніць ролю арміі ва ўнутраным жыцці Кітая, надаўшы ёй па сутнасці паліцэйскія функцыі. Кожная з прэтэндуючых на кіраўніцтва справамі краіны групоўка разлічвае, устанавіўшы, у канчатковым выніку, свой уласны кантроль над узброенымі сіламі, ператварыць іх у надзейную апору для сябе пры любых магчымых узрушэннях.

Афіцыйная прапаганда Пекіна ўзмоцнена паўтарае ў гэтыя дні тэзіс, згодна з якім армія заўсёды была надзейным памочнікам рэжыму і „прытрымлівалася рэвалюцыйнай лініі Мао". Між тым, вядома, што ў мінулым адносіны паміж арміяй і рэжымам не раз набывалі напружаны характар, а апазіцыя лініі Мао Цзэ-дуна з асаблівай сілай праяўлялася іменна ў армейскіх колах.

Не выпадкова пасада міністра абароны заставалася вакантнай з 1971 года, гэта значыць з моманту адхілення Лінь Бяо, якога Мао Цзэ-дун як свайго пераемніка і аднадумца спачатку надзяліў усёй паўнатой улады ў арміі.

А колькі людзей было перамолата на пасадзе начальніка Генеральнага штаба! Хуан Кэ-чэн трапіў у апалу ў 1959 годзе „за нязгоду з унутранай палітыкай" мааістаў. Ло Жуй-цын, які змяніў яго, аказаўся „стаўленікам Лю Шао-цы" і падвергнуўся фізічнай расправе ў перыяд „культурнай рэвалюцыі". Пазней абавязкі начальніка Генштаба выконваў Ян Чэн-у, які ў сваю чаргу быў аб'яўлены ў сакавіку 1968 года „верхаводам антыпартыйнай групоўкі". Наступны дзеяч на той жа пасадзе — Хуан Юн-шэн знік у 1971 годзе адначасова з Лінь Бяо.

Пeратасоўваючы зноў сёння свае ваенныя кадры, мааісты яшчэ раз дэманструюць, што яны ўпэўнены ў стабільнасці абстаноўкі ў краіне.

**А. Красікаў,**
аглядальнік ТАСС

# БГКТ хроніка

■ 20 лютага пленарнае пасяджэнне праўлення сакольскага аддзела падсумавала дзейнасць за 1974 год і абмеркавала далейшыя напрамкі працы, накіраваныя на ўмацаванне і актывізацыю гурткоў БГКТ. Ва ўсіх выступленнях адчуваліся клопаты за лёс арганізацыі, за яе аўтарытэт, за стабільнасць гурткоў і іх эфектыўную культурна-асветную працу. Пленум праанalізаваў актыўнасць членаў пленума і членаў прэзідыума і правёў арганізацыйныя змены. З членаў пленума адклікaны Віталіс Сідараў, Іван Зелянкевіч, Уладзімір Парфенюк, Мікалай Яцэвіч, Расціслаў Мадзалеўскі і Аляксандр Пракапюк. Уведзены ў склад пленума Вера Семянюк, Аляксандр Тур, Сяргей Крышэнь і Аляксандр Юргель. Са складу прэзідыума аддзела адклікaны: Віталіс Чыжэўскі, Ірэна Андроцкая, Расціслаў Мадзалеўскі і Аляксандр Пракапюк. Уведзены ў прэзідыум: Вера Семянюк, Сяргей Крышэнь і Аляксандр Юргель. Сакратаром аддзела выбрана Вера Семянюк. У працах пленума прынялі ўдзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і арганізацыйны кіраўнік ГП БГКТ Яўгенія Іванюк. Яны таксама прынялі ўдзел у дыскусіі.

■ Прэзідыум гайнаўскага аддзела на сваім чарговым пасяджэнні абмеркаваў справаздачу аб дзейнасці за мінулы год, зацвердзіў план працы да канца бягучага года, пазнаёміўся з праграмай павятовага камітэта ПАРП адносна святкавання трыццатай гадавіны перамогі над фашысцкай Германіяй і ў сувязі з гэтым юбілеем намеціў сабе заданні.

■ Фінальны агляд тэатральных калектываў адбудзецца не 15, а 23 сакавіка ў Бельскім павятовым доме культуры.

■ Нядаўна ў Саках (Бельскі павет) гурток БГКТ арганізаваў вечарыну, спалучаную са „Згадуй-згадуляй" на тэму польскага фільму. (мх)

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"**

**Для дабра Беласточчыны і яе жыхароў ● Лёс Белавежскай пушчы ● Мінскі завод халадзільнікаў ● Беларускае народнае мастацтва ў Быдгаскім ваяводстве ● Рэдактар ці пажарнік? ● Выпускнікам ліцэяў аб сельскагаспадарчай акадэміі ў Варшаве ● Весткі з Генюшаў, Бельска, Сямяціч, Семяноўкі, Міхнаўкі, Чыжыкаў, Чаромхі, Дубіч Царкоўных, Шудзялава і інш. ● Песня „Czas relaksu".**



*Марыя Кананава (у цэнтры) у дэсінатарскай Мінскага камвольнага камбіната.*

Карэспандэнцыя з Мінска

## ЧЛЕН УРАДА

Марыя Кананава нарадзілася ў горадзе Полацку ў сям'і чыгуначнага абходчыка праз пяць год пасля перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 года. Без перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі Марыю Кананаву спаткаў бы цяжкі лёс, як і ўсіх жанчын у дарэвалюцыйны час. Можна думаць, што яна нават не навучылася б пісаць і чытаць, бо ў стары час на Беларусі было 80 працэнтаў непісьменных, а сярод жанчын гэты працэнт быў яшчэ вышэйшы.

Вялікая Кастрычніцкая шырока адчыніла дзверы дачцы простага рабочага да адукацыі. У васемнаццаць год Марыя Кананава закончыла сярэднюю школу і стала студэнткай Ленінградскага тэкстыльнага інстытута. Гэта было напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. Маладзенькая студэнтка падзяліла з ленінградцамі страшэнныя пакуты блакады. Потым эвакуацыя. Марыя апынулася ў Сярэдняй Азіі. На працягу двух год, далёка ад Ленінграда, яна працавала матальніцай на Ташкенцкім тэкстыльным камбінаце.

Інстытут Марыя Кананава закончыла ўжо пасля вайны, у вызваленым Ленінградзе. Тады ёй запрапанавалі паехаць працаваць у добра абжытую Кастраму. Але Марыя адмовілася і папрасіла накіраваць яе ў Беларусь. Хутка яна паехала працаваць на Аршанскі ільнокамбінат, які тады быў зусім разбураны вайной і толькі адбудоўваўся.

Пачаўшы з пасады звычайнага інжынера, выхаванка Ленінградскага тэкстыльнага інстытута за чатыры гады стала намеснікам дырэктара камбіната: праявіўся яе незвычайны талент арганізатара ў сукупнасці з выдатным веданнем усіх таямніц вытворчасці і патрэб рабочага калектыву.

У 1960 годзе яе назначылі дырэктарам Мінскага камвольнага камбіната, аднаго з буйнейшых у краіне, які незадоўга да таго ўвайшоў у строй працуючых і толькі набіраў сілу. Жаночае кіраўніцтва аказалася тут зусім не горш мужчынскага: камбінат хутка дасягнуў праектную магутнасць і перавысіў яе. Добрую памяць пакінула аб сабе Марыя Кананава на камбінаце. Ён стаў адным з перадавых прадпрыемстваў тэкстыльнай прамысловасці краіны.

Побач з камбінатам вырас пасёлак, які смела можна назваць горадам у горадзе, дзе на першым плане інтарэсы работніц камбіната. Камбінат і пасёлак у Мінску называюць „жаночым царствам". А галаву гэтага „царства" тэкстыльшчыкі выбралі сваім дэпутатам у Вярхоўны Савет Беларускай ССР.

І вось Марыя Кананава ў няпоўныя свае пяцьдзесят год — член урада рэспублікі. Не сувязі і не багацтва дапамаглі Марыі Кананавай стаць міністрам лёгкай прамысловасці Беларусі, а асабістыя здольнасці, арганізатарскі талент дазволілі заняць ёй гэтую пасаду.

Шырокай сеткай прадпрыемстваў кіруе цяпер Марыя Кананава. 120 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, у тым ліку такія гіганты, як Аршанскі ільняны, Мінскі камвольны, Баранавіцкі баваўняны камбінаты, Мінская трыкатажная фабрыка, буйнейшая ў Еўропе, Магілёўскі шаўковы камбінат, Віцебскі і Брэсцкі дывановыя камбінаты.

Марыя Кананава далёка не кабінетны працаўнік. Яна часта бывае на падначаленых ёй прадпрыемствах. Яе сустрэчы ў час гэтых паездак не абмяжоўваюцца размовамі аб колькасці і якасці выпускаемай прадукцыі. Кананаву заўсёды цікавіць жыццё і быт рабочых калектываў.

У размове з Марыяй Кананавай я паставіў сабе пытанне: што ж кіруе гэтым чалавекам? І яна, быццам злавіўшы мае думкі, сказала:

— Мы імкнемся рабіць як мага больш і хутчэй для паляпшэння жыцця і для шчасця народа.

Іменна высакародны непакой — галоўны стымул у працы Кананавай, якая ўзнагароджана, дарэчы, ордэнам Леніна і ордэнам „Знак Пашаны".

Ёю кіруе пачуццё адказнасці перад народам. Лёгкую прамысловасць яна называе „індустрыяй для ўсіх", і ў гэтым выразна праступае нотка гонару. У адным са сваіх выступленняў у друку яна пісала: „Вядомы рускі пісьменнік Антон Чэхаў сказаў, што ў чалавеку ўсё павінна быць цудоўна: і твар, і адзежа, і душа, і думкі. Добра, паэтычна сказана. Заўважце, вялікі пісьменнік да цудоўнага ў чалавеку залічваў і адзежу. І яна сапраўды павінна быць такой — выгоднай, моднай, далікатнай і элегантнай. А гэта ў многім залежыць ад нас, працаўнікоў лёгкай прамысловасці.

Мэта сацыялізма — дабро чалавека. Гэтай мэце падпарадкавана ўся дзейнасць Марыі Кананавай, міністра і дэпутата парламента.

**Барыс Усцінаў**

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 9.III.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Chem. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 W Starym Kinie. 12.00 Dzien. 12.20 Z kamerą wśród zwierz. 12.45 Kobietom wsi. 13.15 Słynne Symf. Mozarta — gra Ork. Wiener Symphoniker. 13.50 Nie tylko dla pań. 14.15 Zakończ. IV Tel. Fest. Wid. Lalkowych. 15.15 Lekt. Pegaza. 15.30 Los. Toto-Lot. 15.45 Trans. z Hal. Mistrz. Europy w l. atlet. 18.20 Przyjąć czy odrzucić. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Eneida — film ser. wł. 21.10 Tak jest, jak się państwu zdaje. 21.50 Sport.

**Poniedziałek 10.III.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.55 Nurt — Nauki polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Kur. Biał. 18.10 Antonio Vivaldi — koncert C-mol na dwoje skrzypiec i ork. smycz. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Imre Sarkadi „Dom pod miastem". 21.50 Ludzie moich dni. 22.20 Przed kamerą kameralnie. 22.40 Dzien. 22.55 Oferty.

**Wtorek 11.III.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 9.05 Eneida — film ser. wł. 10.00 Dla szkół: (kl. V—VI) J. pol. O miejsce wśród ludzi. 11.05 (kl. VII—VIII) Wych. plast. Czy szata zdobi? 12.00 (kl. VIII) Hist. Tajne naucz. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Na wielkim i małym ekr. 17.40 Studio TV Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Sezam. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Rodzina Thibault — film ser. fr. 21.50 Świat i Polska. 22.35 Dzien. 22.50 Sport.

**Środa 12.III.** 6.30 Tech Rol. Mat. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. Ciśnienie w gazach. 10.00 (kl. V) Hist. Polska pierwszych Piastów. 12.00 (kl. VIII) Chem. Woda. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Fiz. Pole magnet. 15.55 Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla mł. widzów. 17.10 Inf. — Tow. — Prop. 17.20 Los Mał. Lot. 17.30 Naj. z najlepszych — Finał cz. I. 18.00 Kr. Warsz. i Maz. 18.20 Sylwester — film ser. jug. 18.45 Spot. z medycyną. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Skok o tyczce i piosenka. 22.00 Naj. z najlepszych — Finał cz. II. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Czwartek 13.III.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 8.25 Kurs Informat. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I—III lic.) Przysp. obr. W rejonie poraż. 10.00 (kl. II lic.) J. pol. C. K. Norwid. 10.35 Pułapka — film ser. pol. 12.55 Dla szkół: (kl. III—IV lic.) J. pol. L. Staff. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Ekran z brat. 17.40 Niedzielny muzyk. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Przyp., radz. 18.40 Poligon. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Pułapka — film ser. pol. 21.15 Czym żyje świat. 21.45 Twarze teatru — Igor Przegrodzki. 22.25 Dzien. 22.40 Sport.

**Piątek 14.III.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 8.00 Kawaler Dupin — skradziony list — film fr. (Wielcy detektywi). 9.00 Dla szkół: (kl. III) Jak to ze lnem było. 10.00 (kl. VI) Geog. Na nizinie wielkopolsko-kuj. 11.05 (kl.I-III lic.) Wych. tech. Łączność radiowa. 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. Polska w RWPG. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 13.45 Politech. Kurs przyg. Mat. Badanie funkcji. 14.55 Nurt — Ped. 15.30 Sport. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Turyst. i wyp. 17.35 Dla mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty — Op. — Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kawaler Dupin — skradziony list — film fr. (Wielcy detektywi). 21.15 Panorama. 21.55 Leningr. balet na lodzie — cz. II. 22.40 Dzien. 22.55 Sport.

**Sobota 15.III.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 9.00 Jesteś przecież mężczyzną — film fab. CSRS. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zool. Gady dawniej i dziś. 11.05 (kl. VIII) Geog. Surowce energet. Polski. 13.15 Tech. Rol. Chem. 13.50 Mech. rol. 14.20 Pr. i prop. 14.35 Red. Szk. zap. 14.45 Kr. Warsz. i Maz. 15.05 Pr. dnia. 15.10 Inf. Wyd. 15.30 Sport. 16.20 Dzien. 16.30 Sobótka. 16.55 Brazylia nieznana — odc. II. 17.15 Dla mł. 18.00 Not. światł. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Ten najlepszy — film fab. USA. 22.00 Dzien. 22.20 Sport. 22.40 Varieté na dwa fortepiany.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 7.III** — 8.15 Mistrz. świata w j. fig. na lodzie. 12.00 Film fab. 14.00 Trans. z Pałacu Zjazdów. 19.30 Mistrz. świata w j. fig. na l. 21.00 Koncert.

**Sobota 8.III** — 12.35 Film fab. 14.45 Mistrz. świata w j. fig. na l. 16.55 W świecie zwierz. 17.55 Teatr miniatur. 19.30 Błękitny płomyk. 21.30 Mistrz. Europy w lekkoatl.

**Niedziela 9.III** — 9.00 Splektakl. 11.50 Film fab. 13.05 Koncert. 14.30 Mistrz. świata w j. fig. na l. 16.15 Filmy anim. 16.40 Klub film. 17.40 Film ser. 19.30 Koncert estrad.

# КІНО

**Białowieża** Drogi mężczyzn — czes. 11—12. Zbrodniarka czy ofiara — jap. 13—14. Serafino — wł. 15—16.
**Czeremcha** Świadek koronny — wł. 11—12. Nagrody i odznaczenia — pol. 15—16.
**Czyże** Ciemna rzeka — pol. 12—16.
**Dubicze Cerkiewne** Włoch szuka żony — wł. Wraki — pol. 12—16.
**Gródek** Szpital — USA 15—16.
**Kleszczele** Tajemnice Kaliakry — buł. USA 11—12. Dziewczyna na miotle — czes. 13—14. Wahadło — USA 15—16.
**Michałowo** Człowiek w pięknym krawacie — fr. 11—12. Ponieważ się kochają — rum. 13—14. Samurg ptak szczęścia — radz. 15—16.
**Mielnik** Komandosi — wł. 11—12. Pójdziesz ponad sadem — pol. 15—16.
**Milejczyce** Kto śpiewa nie grzeszy — jug. 11—12. Czarownica z bagien — radz. 13—14. Uciec jak najbliżej — pol. 15—16.
**Narew** Żółtodziób — radz. Doktor Popaul — fr. 12—16.
**Narewka** Ostatnie wakacje — radz. Tylko umarły odpowie — pol. 12—16.
**Nurzec** Horyzont — węg. 11—12 Małżonkowie roku II-go — rum. 13—14. Grzech Katarzyny — czes. 15—16.
**Orla** Morgiana — czes. Przerwana pieśń — bułg. 12—16.
**Rajsk** Rodeo — USA. Babie lato — buł. 12—16.
**Suchowola** Wspaniałe słowo wolność — radz. Szaleństwo miłości — nor. 12—16.

B.Z.Graf. zam. 931 P-1

 

# „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ -75"

(Працяг са стар. 1)

выкананні якой старадаўнія песні пра няшчасную долю нелюбімай мужам маладзіцы былі патрасаючым спевам скрозь слёзы. І ўсё ж не абышлося без таго, што адзін ці два выканаўцы „пусцілі пеўня". Што ж, хваляванні, перажыванні ды нявопытнасць у справах вакалістыкі зрабілі сваё. Але, на шчасце, гэта былі адзіночныя выпадкі, якія не пашкодзілі высокаму наогул выканаўчаму майстэрству спевакоў.

Журы агляду ў складзе: **В. Дзюбінскі** з Беластоцкай філармоніі, **К. Дэркоўскі** з аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, **Э. Кулікоўскі** з Ваяводскага дома культуры і **С. Яновіч** з беластоцкай гарадской культурна-асветнай парадні пад старшынствам выкладчыцы музыкі ў беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта **Л. Панько** мела шмат нялёгкай працы, але ацаніла ўдзельнікаў агляду аб'ектыўна і спраўна.

У катэгорыі фальклорнай песні ў групе салістаў першае месца заняла **Н. Грыцук** з Навасёлкаў Беластоцкага павету, **другое — А. Стахвіюк** з Трасцянкі Гайнаўскага павету, трэцяга месца ў гэтай групе журы не прызнала. У групе дуэтаў **першае** месца занялі **Т. Ільяшук і Л. Грайко** з Бельскага беларускага ліцэя, **другое — Н. Мушынская** і **Н. Парэмбская** з Гарадка Беластоцкага павету, **трэцяе** — сёстры **В.** і **М. Манцюк** з Мікулічаў Сямяціцкага павету. У групе калектываў **першае** месца здабыў квінтэт з Арэшкава Гайнаўскага павету ў складзе: **Н. Аверчук, Т. Гурын, Н. Грушэўская, В. Кошаль** і **А. Парфенюк; другое** месца — трыю з Новай Волі Беластоцкага павету ў складзе: **Р. Буйко, А. Кузьміцкая** і **К. Сак; трэцяе** месца — квартэт з Дубяжына Бельскага павету ў складзе: **П. Ігнацюк, Я. Тамашук, Я. Томчук** і **М. Філіпюк.**



*Слухачы з увагай і адабрэннем успрымалі кожны твор і кожнага выканаўцу.*

У катэгорыі сучаснай песні ў групе салістаў **першае** месца заняла **М. Урыновіч** з Беластока, **другое — Л. Гаўрылюк** з Беластока, **два** раўназначныя **трэція — А. Назарук** з Гайнаўкі і **А. Раманюк** з Бельска. У групе дуэтаў журы месц не прызнала. Сярод калектываў **першае** месца заняў актэт з Гарадка Беластоцкага павету ў складзе: **Р.** і **Э. Дылько, А. Захарчук, О. Мядзведзева, І. Паўлючук, М. Траскоўская, Ю. Цеханоўская і Н. Цыванюк; другое** месца — сектэт з Бельска ў складзе: **В. Лукашук, Е. і Н. Навакоўскія, Н. Нікіцюк, В. Раеўская і М. Цар; трэцяе** месца — квартэт з Клейнікаў Гайнаўскага павету ў складзе: **М. Гаўрылюк, А. Грыгорчук, М. Купрыяновіч** і **Ф. Мікульская.**

Самае высокае прызнанне належыцца **Валянціне Філіпюк** — актывісту гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку — за **майстэрскае** вядзенне ўсяго агляду.

Па-за конкурсам з казачна каляровай, спеўнай і вясёлай пастаноўкай беларускіх народных **„кудзельніц"** выступіў калектыў з **Меляшкоў** Беластоцкага павету, а таксама са своеасаблівым канцэртам народных мелодый **Ю. Домань** — гарманіст з Меляшкоў Беластоцкага павету.

Сцэну здобіла скромная, але густоўная дэкарацыя, а ўся арганізацыя агляду была спраўная і належна падрыхтаваная.

Гэта ў рэпарцёрскай справаздачы, а свае асабістыя думкі і разважанні аб сёлетнім і папярэдніх конкурсах беларускай песні — у адным з наступных нумараў нашага тыднёвіка.

**Ігнат Снарскі**
Фота **Я. Цялушэцкага**



*Народныя песні найлепш выконвала і заняла першае месца ў групе салістаў у катэгорыі фальклорнай песні Надзея Грыцук з Навасёлкаў Беластоцкага павету.*

# ЯКІМ ПАВІНЕН БЫЦЬ НАШ КАЛЯНДАР?

Дзевятнаццаць беларускіх календароў ГП БГКТ трэба аднесці да адной з непаўторных выдавецкіх з'яў у нашым грамадска-культурным жыцці. Гэтае выданне, агульны тыраж якога склаў звыш 115 тысяч экземпляраў, вядомае амаль кожнаму жыхару паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. У многіх дамах календары складаюць куточак уласных бібліятэк. Змешчаныя ў іх матэрыялы настолькі розняцца паміж сабою, што цяжка іх ахарактарызаваць: грунтоўныя апрацоўкі і малыя даведкі, характарыстыкі вялікіх гадавін і гумар, гісторыя БГКТ і фальклор, матэрыялы ўстарэлыя і вечна актуальныя, а нават унікальныя.

Вялікая колькасць беларускіх календароў, цікавы іх змест, папулярнасць сярод насельніцтва стварылі гэту серыю кніжак традыцыйнай і найважнейшай у выдавецкай дзейнасці ГП БГКТ. Таму падтрымліваю ініцыятыву рэдакцыі „Нівы" правядзення дыскусіі аб падрыхтоўцы чарговых календароў.

Характэрнай рысай усіх выдадзеных календароў з'яўляецца працягванне канцэпцыі беларускага календара ГП БГКТ на 1958 год, рэдактарам якога быў Міхась Баравік. Можа і гэта канцэпцыя не была зусім новай, але іншую апрацоўку атрымалі толькі два календары: Навукова-літаратурны зборнік і беларускі каляндар на 1961 год, які нельга нават адносіць да календароў, і Беларускі каляндар на 1966 год, у якім сабраны матэрыялы аб 10-гадовай дзейнасці БГКТ. Усе іншыя апрацоўкі вяліся ў напрамку ўдасканальвання спамянутай канцэпцыі падборкі лепшых матэрыялаў, узбагачэння графікі.

## УДАСКАНАЛЬВАЦЬ ПРОФІЛЬ

Адыход ад зместу традыцыйных календароў на іншых мовах да падрыхтоўкі універсальнай кніжкі ва ўмовах БГКТ быў неабходнасцю і пакуль што ёю астаецца. На календарах і „Ніве" трэба было насельніцтва вучыць чытаць, інфармаваць, выхоўваць, рэалізаваць статутовыя заданні БГКТ і палітыку ўлад. Паколькі ўмовы змяняюцца, трэба, відавочна, удасканальваць выпрацаваны профіль нашых чарговых календароў. Іх агульны план мог бы выглядаць так:

I. Каляндарная частка — 25 старонак,

II. Вялікія гадавіны — 10-15 старонак,

III. Грамадска-гаспадарчая праблематыка — 30-40 старонак,

IV. Весткі з БССР — 10 старонак,

V. Дзейнасць БГКТ — 20-30 старонак,

VI. Асветныя справы — 10-20 старонак,

VII. З нашай мінуўшчыны — 10-20 старонак,

VIII. Літаратурная творчасць — 20-30 старонак,

IX. Фальклорная частка — 20 старонак,

X. Парады, інфармацыі, гумар — 10 старонак.

Разам 180-200 старонак друку.

І праблематыка і адведзенае ёй месца не можа быць нечым сталым. Павінна аднак адпавядаць статутовым заданням БГКТ, інтарэсам большасці нашага насельніцтва і краіны.

Каляндарная частка ў беларускіх календарах дапрацавана і, апрача невялікіх удасканаленняў ці актуалізацыі, змен не патрабуе. Не прыняліся асобныя ўкладкі каляндарыума, патрэбна яшчэ пашана да двух стыляў. Доўга адзначаліся праваслаўны і каталіцкі, затым былі ўведзены больш трапныя назвы — стары і новы, урэшце, у 1975 г. яны зінтэграваліся ў „імяніны". Што да чаго адносіць — невядома, напрыклад, 6.I. у адной калонцы табеля фігуруюць „Трох каралёў", а побач у другой — Куцця. Яўгеніі". Гэта ўжо не інфармацыя, а проста гумар.

Вялікія гадавіны як паасобныя раздзелы выступаюць у 12 папярэдніх календарах. Тут юбілейныя гадавіны ПНР, СССР, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Грамады, з'ездаў ПАРП, БГКТ. Гэта цікавыя матэрыялы, у змесце якіх адзначаецца ўдзел мясцовага насельніцтва. Калі такіх гадавін няма, раздзел можа адсутнічаць.

Ставячы на трэцяе месца грамадска-гаспадарчыя справы, падкрэсліваем іх важнасць. Прызначанае ім месца трэба запоўніць нечым новым, рэальным. Прадбачваецца, напрыклад, пабудова ў наступнай пяцігодцы ў Сямяціцкім павеце вялікага гароднінна-кансервавага завода. Перад мясцовым насельніцтвам будуць ставіцца новыя заданні. Добра было б іх раней выявіць, перакануча паінфармаваць аб іх насельніцтва, каб ад пачатку дзейнасці завода яно знайшлося ў ліку першых у падрыхтоўцы сыравіны, кадраў.

Карысна было б увесці сталую старонку інфармацыі аб новых сельскагаспадарчых кнігах, прыладах, замест устарэлых інфармацый і скарочаных павучэнняў.

Дзесяць старонак новых вестак з БССР і дваццаць старонак інфармацыі аб дзейнасці БГКТ трэба прадбачыць у кожным календары таму, што яны надта патрэбны, а лепш за нас гэтага ніхто не зробіць.

Важнасць асветных спраў патрабуе акрэсленага месца. У бліжэйшыя гады ў сувязі з рэформай сярэдняга школьніцтва выступяць, асабліва ў вясковых асяроддзях, складаныя праблемы: змена школьнай сеткі, падручнікаў, недахоп кадраў і вопыту, а побач з імі — дасягненні паасобных школ, настаўнікаў і вучняў (напрыклад, удзельнікі алімпіяд). Абмен вопытам яшчэ больш зацікавіць настаўнікаў, якія ў кальпартаж календара ўкладаюць многа працы.

Раздзел аб нашай мінуўшчыне павінен у нейкай ступені кампенсаваць недахоп ведаў па ўласнай гісторыі, рэактываваць маленькі падраздзел „Аб нас пісалі", выяўляць слаўных людзей Падляшша, малавядомыя дакументы і матэрыялы аб беларуска-польскім супрацоўніцтве, групаваць іншыя даведкі, якія зробяць каляндар даўжэй актуальным.

Як сталы раздзел трэба ўвесці літаратурную творчасць; павінен ён база-

(Працяг на стар. 5)

# ЛЮДЗІ БГКТ

### ЛІДЗІЯ ГЕРАСІМЮК

Лідзія Герасімюк, вучаніца III класа Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, два гады таму назад была выбрана старшынёю 24-асабовага гуртка БГКТ у Дубічах Царкоўных. Дубіцкія члены БГКТ адразу арганізавалі тэатральны гурток. 8 студзеня гэтага года выступілі яны з пастаноўкай на сцэне ў мясцовым гмінным цэнтры культуры (ГОК). Зал быў перапоўнен гледачамі. П'еса была прынята вельмі ўдзячна. Пасля мастацкай часткі адбылася маладзёжная забава. Маладыя самадзейнікі Мікалай Герасімюк, Люба Сабалеўская, Лідзія Леанюк, Ніна Нікіцюк, Ян Бялявец, с. Яна, і Ян Бялявец, с. Мікалая, намераны яшчэ наведаць з пастаноўкай суседнія вёскі.

БГКТ-оўцы дбаюць пра мясцовы ГОК, пра дэкарацыю і розныя ўпрыгожванні ў ім. У ГОК-у часта арганізуюць вечарынкі, на якіх танцуюць пад гукі сучасных мелодый з грампласцінак, магнетафоннай стужкі або ўласнага аркестра. У аркестры выступаюць Грыша Шварц (акардэон), Яўген Ляўчук (гітара), Анатоль Канопля (гітара) і Мікалай Чурак (бубен). Салісткай музычнага калектыву з'яўляецца Люба Сабалеўская, якая спявае сучасныя песні на некалькіх мовах.

Па ініцыятыве Лідзіі Герасімюк моладзь упарадкавала панадворак пры клубе, у час жніва дапамагла пры ўборцы жыта адзінокай пажылой жанчыне, восенню садзіла дрэўцы. Некаторыя члены БГКТ запісваюць мясцовыя песні, якія спакон вякоў спяваюць на вяселлях або хрысцінах у наваколлі.

Ліцэістка Лідзія Герасімюк добра адчувае сябе ў кругу людзей і спраў, дзе плануецца і выконваецца нешта карыснае, дзе чалавек аддае людзям свае здольнасці і можа адчуваць сябе актыўным і патрэбным. Мае яна свой стыль у выглядзе, у навуцы і ў працы. Яе стыль — гэта стыль саліднасці.

Тэкст і фота **Я. Ц.**





 

(Працяг са стар. 3)

## Удасканальваць профіль

вацца на лепшых творах мясцовых паэтаў і празаікаў, гадавых аглядах „Літаратурнай старонкі“ і твораў з літаратурных конкурсаў ГП БГКТ і „Нівы“. Спрыяў бы ён актывізацыі літаратурнага руху.

У галіне збірання фальклору ўжо нешта зроблена, але не абагульнена і, здаецца, мы яшчэ доўга не зможам гэтага зрабіць. Няхай будзе хоць у календары сталы раздзел гэтага гінучага народнага скарбу. Можа, збярэ і выкарыстае яго будучае пакаленне.

Графіка ў календарах павінна быць прыгожай, сучаснай, нацыянальнай, рэгіянальнай і моцна звязанай са зместам артыкулаў. У маім адчуцці адпавядаюць гэтаму, напрыклад, вокладкі календароў на 1962, 1965, 1970, 1971 і 1973 гады і пярэчаць — на 1959, 1966 і 1968 гады. Шмат недахопаў мае ўнутраная графіка. Трэба, каб над яе паляпшэннем падыскутавалі мастакі.

На заканчэнне яшчэ некалькі дробных заўваг:

— падрыхтоўкай матэрыялаў да календароў павінна займацца рэдакцыйная калегія — людзей, розных па сваіх зацікаўленнях і прафесіянальнай падрыхтоўцы,

— матэрыялы да календароў павінны рыхтаваць журналісты і іншыя спецыялісты,

— падрыхтаваны да друку матэрыял павінен абмяркоўваць шырэйшы актыў БГКТ, а не адзіны рэцэнзент,

— трэба пазбягаць спозненых выхадаў календара, а такія выпадкі лічыць гаспадарчым шкодніцтвам, якім павінны сур'ёзна заняцца ГП БГКТ і ўлады, фінансуючыя яго выданне.

**Ул. Юзвюк**

## ФАЛЬКЛОР

ХРЫСЦІННАЯ

Lento



Ой, про-па-ла мо-я до-ля, про-па — ла —



За п'я-ні-цю мэ-нэ ма-ті од-да — ла.



За п'я-ні-цю мэ-нэ ма-ті од-да — ла.

*Ой, пропала моя доля, пропала —*
*За п'яніцю мэнэ маті оддала.*
*За п'яніцю мэнэ маті оддала.*
*А п'яніця-гультаіця в корчме п'е,*
*А як прыдэ додомоньку, жонку б'е.*
*А як прыдэ додомоньку, жонку б'е.*
*Ой, нэ бісе, п'янічэньку, нэ бісе —*
*Пойді лепі до коморы проспісе.*
*Пойді лепі до коморы проспісе.*
*Ой, прыехав мой батэнько зэ Львова,*
*Пытаеце: „П'янічэнько чы дома?“*
*Пытаеце: „П'янічэнько чы дома?“*
*Ой, потіху, мой батэньку, говоры —*
*Бо спіт моя п'янічэнька в коморы.*
*Бо спіт моя п'янічэнька в коморы.*
*Як ты тую п'янічэньку обудіш,*
*То ты мою головоньку загубіш.*
*То ты мою головоньку загубіш.*

*Ой, прывыкай, мое діте, прывыкай,*
*До суседа окенэчком утікай.*
*До суседа окенэчком утікай.*
*Ой, я рада, мой батэньку, утэчы —*
*Трымаеце п'янічэнька за плечы.*
*Трымаеце п'янічэнька за плечы.*
*Ой, што мое роднэ діте думало,*
*Як на тую шыбку кладку ступало.*
*Як на тую шыбку кладку ступало.*
*Я думала, мой батэньку, тонуті,*
*Як з такою п'яніцею век жыті.*
*Як з такою п'яніцею век жыті.*
*Ой, нэ думай, мое діте, нэ думай,*
*Завэзэмо п'янічэньку за Дунай.*
*Завэзэмо п'янічэньку за Дунай.*
*Завэзэмо п'янічэньку за рэкі,*
*Утопімо п'янічэньку на векі.*
*Утопімо п'янічэньку на векі.*

Ад Валянціны Здраеўскай, 1930 года нараджэння, вёска Шчыты Бельскага павету, запісаў 8 кастрычніка 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Ліля Маркоўская

Адной з найлепшых спартсменак у Агульнаадукацыйным ліцэі імя М. Каперніка ў Саколцы з'яўляецца Ліля Маркоўская, вучаніца першага класа. Даязджае яна ў школу з вёскі Якаўляны. Тут, у роднай вёсцы, ставіла першыя крокі на спартыўнай ніве. Была найлепшай сярод сваіх равесніц у бегу і скачках. На ваяводскай міжшкольнай спартакіядзе ў чатырохбор'і заваявала другое месца. Атрымала найлепшыя вынікі ў бегу на 100, 400 і 800 метраў. Скочыла ў даўжыню таксама нядрэнна — 493 см. Каб пераадолець пяць метраў, ужо цяпер упарта трэніруецца. Перад юнай спартсменкай неўзабаве новыя старты на спартакіядзе сярэдніх школ.

Ліля Маркоўская займаецца не толькі спортам. Яе любімым прадметам з'яўляецца геаграфія, а заняткам у вольны час — ігра на акардэоне.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## БЕЛАСТОЦКІЯ ТКАЧЫХІ

На машыне каляровай плынню струменіцца ўзорыстая мяккая тканіна. Пільны зрок бракаўшчыц **Крысціны Задыковіч** і **Тэрэсы Васілеўскай** ні на міг не адрываецца ад яе. Не спускае вачэй з узорыстага патоку і падышоўшая да іх кіраўнік аддзялення канчатковай апрацоўкі тканін **Надзея Пракопчык.**

— Рыхтуем вялікія партыі пледаў у Балгарыю і ў скандынаўскія краіны, — інфармуе Н. Пракопчык. — Прыгожыя, праўда? — і яна гладзіць далонню пушысты струмень. — А і на наш унутраны рынак ідуць зусім не горшыя. А гляньце на тыя штукі матэрыялаў, што ляжаць на транспарцёрах, ці здалёк падабаюцца яны вам? Пэўна, элегантны колер. — Мы падыходзім да транспарцёраў, кранаю пальцамі шэрую са стальным адценнем тканіну, звычаем пакупніка правяраю, ці мнецца. Н. Пракопчык глядзіць на мяне і ўсміхаецца: — Пэўна, хацелі б мець сабе такое паліто? Што ж, гэта самы модны матэрыял. Загляньце ў беластоцкія крамы, павінен быць у продажы, бо пастаўляем мы яго шмат і на ўнутраны рынак і за мяжу, між іншым, у Савецкі Саюз. Наша прадпрыемства з'яўляецца адным з вядучых у Польшчы вытворцаў тканін на дамскія, мужчынскія і маладзёжныя паліто і самых разнастайных пледаў. Тчэм іх з высакаякаснай аўстралійскай, новазеландскай і польскай воўны з дадаткам самых сучасных гатункаў штучнага валакна.

Надзея Пракопчык сама паходзіць з Ляшчанаў, што каля Крынак на Сакольшчыне. Пасля пачатковай школы выбрала тэкстыльны тэхнікум у Беластоку, як сама прызнаецца, **„каб падтрымаць традыцыю славутых сакольскіх дываноў“.** Беластоцкія прадпрыемствы ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Ю. Сяржана ёй асабліва палюбіліся. У іх яна праходзіла практыку.

— О, пані Надзя была выдатнай стажысткай, — успамінае тадышні майстар ткальні, а цяпер тэхнолаг на аддзяленні падрыхтоўкі вытворчасці **Станіслаў Барчак.** — Затым была бездакорнай працаўніцай.

Пасля году працы ў ткальні Н. Пракопчык перайшла ў сартавальню, потым працавала ў хімічнай лабараторыі, майстрам на аддзяленні канчатковай апрацоўкі тканін і вось, ужо паўгода з'яўляецца кіраўніком гэтага аддзялення. У суме дзесяць год працы ў „Сяржана“. Цэняць і шануюць Н. Пракопчык людзі, а гарадская партыйная справаздачна-выбарная канферэнцыя абрала яе дэлегатам на Ваяводскую справаздачна-выбарную канферэнцыю ПАРП.

„Сяржан“ належыць да самых старэйшых прадпрыемстваў на Беласточчыне, але калектыў яго малады. Сярэдні ўзрост працаўнікоў тут не перавышае 37 гадоў, а 34 прац. калектыву — гэта людзі да 30 год. Штогод адыходзяць на заслужаную пенсію старэйшыя людзі, а прыходзіць на іх месца новая, маладая змена. Вось хоць бы ў мінулым годзе сюды паступіла на работу 146 выпускнікоў прафесіянальных школ і тэхнікумаў. Таму партыйная арганізацыя, рабочы савет, Саюз сацыялістычнай моладзі ў сваёй дзейнасці многа ўвагі адводзяць працы з моладдзю, яе штодзённым справам і адаптацыі ў калектыве завода. І трэба прызнаць, што моладзь не падводзіць сваё прадпрыемства. Між іншым, дзякуючы яе энтузіязму і энергіі, „Сяржан“ дабіўся паскоранага тэмпа павелічэння вытворчасці. Доказам гэтага можа быць павелічэнне вартасці вытворчасці ў 1974 г. у параўнанні з 1970 г. на 64,6 прац. Адчуваючы патрэбы ўнутранага рынку, прынята на 1975 г. далейшае павелічэнне вытворчасці на 10,5 прац. у параўнанні з 1974 г. Значыць, „Сяржан“ у 1975 г. даставіць на рынак сваіх вырабаў на 82 прац. болей, чым у 1970 г. А гэтыя працэнты абазначаюць жа мільёны метраў высакаякасных тканін, якія карыстаюцца вялікім попытам у пакупніка. І ўсе яны праходзяць цераз рукі працаўнікоў аддзялення канчатковай апрацоўкі, якім кіруе Надзея Пракопчык.

Сяржанаўская моладзь, працуючы, не спыняе вучыцца. Каля 150 асоб займаецца ў вячэрніх і завочных тэхнікумах, многа вучыцца на завочных аддзяленнях вышэйшых навучальных устаноў. Так, напрыклад, сама Н. Пракопчык канчае цяпер на завочным аддзяленні Лодзінскага палітэхнічнага інстытута факультэт хімічнай тэхналогіі валакна. Усе экзамены ўжо здадзены, засталася абарона магістэрскай працы на тэму павышэння якасці тканін з нізкім змесцівам ваўняных валокан шляхам хімічнай апрацоўкі. Гэтая праца будзе мець прымяненне ў вытворчасці аддзялення канчатковай апрацоўкі тканін у „Сяржана“.

Канчаецца змена. Н. Пракопчык перадае свае абавязкі намесніку. Апранаецца. Гляджу на яе ўзорыстае, з пушыстым начосам, моднае паліто.

— Так, гэта таксама з нашай, сяржанаўскай тканіны, — адказвае яна на маё нямое пытанне. — А цяпер планую набыць сабе касцюм з „твіду“ — самай сучаснай, ну, і моднай, тканіны, што мы пачалі выпускаць.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*Справа: бракаўшчыца К. Задыковіч, кіраўнік аддзялення канчатковай апрацоўкі тканін Н. Пракопчык і бракаўшчыца Т. Васілеўская.*




## „Доокола свята“ аб В. Быкаве

Анансуючы выхад у перакладзе В Варашыльскага і Е. Літвінюка на польскую мову зборніка аповесцей вядучага сучаснага беларускага празаіка **Васіля Быкава** „Дажыць да світання“, **З. Врублеўскі** ў тыднёвіку **„Доокола свята“** ад 9 лютага г.г. піша:

*„Крытыка, не толькі наша, любіць карыстацца этыкеткамі. Пісьменніка залічваюць да групы сучасных або традыцыйных, што аддаюць перавагу тэмам бытавым, гістарычным, псіхалагічным, сенсацыйным і г.д. і г.д. Васіль Быкаў, кніга якога „Дажыць да світання“ нядаўна паявілася ў выданні Дзяржаўнага выдавецкага інстытута ў серыі „Сучасная сусветная проза“, прызнаны быў пісменнікам, што паслядоўна застаецца пры ваеннай тэматыцы. На самай справе, усе тры апавяданні ці мікрааповесці, якія складаюць гэтую кнігу, значыць, апрача загаловачнага апавядання таксама „Кругляньскі мост“ і „Абеліск“, дзеюцца ў часе вайны. Не думаю, аднак, каб сама вайна як з'ява так захапляла пісьменніка. Займае яго хутчэй за ўсё мараль герояў, пастаўленых у крайнасці перад выпрабаваннем і выбарам. Паказвае ён вынікі парушэння маральных нормаў, якія чалавек не можа бяскарна парушаць ні ў якіх умовах. Імення гэтыя справы паводзін чалавецтва ў крайніх сітуацыях, здаецца, і з'яўляюцца асноўным матывам прыгожай і глыбока чалавечай творчасці Васіля Быкава“.*

(іс))

## ВЕР-НЕ ВЕР

### ЛІПА

Сёння гараскоп падсумоўвае **выгляд і рысы характару людзей, што нарадзіліся паміж 11-20 сакавіка і 13-22 верасня.**

Ліпа бывае надзвычай прывабная, дасканала ўмее паслугоўвацца сваёй прыгажосцю. Ліпа ўмее кожнаму закруціць у галаве.

Марыць яна аб выгадах, аб стабільным жыцці і часамі не здае сабе справы з таго, што ў сапраўднасці для яе гэта не мае вялікага значэння, што ўмее яна прыстасавацца да кожных умоў. Нават у палявых умовах умее стварыць дамашнюю атмасферу.

Спакойная (з выгляду) і нават крыху бязвольная, дыскрэтная, а нават крыху пужлівая, бывае ў добрым настроі, але часта і ў песімістычным. Часта ліпа ідзе па жыццю з пачуццём абыякавасці. Гэта якраз галоўны яе вораг.

Ліпа бывае нясталая, чуллівая на прыгожыя словы, накіраваныя ў яе адрас. У ёй многа супярэчнасцей, і таму часта бывае яна істотай, якую цяжка расшыфраваць.

Адно ў ліпе несумненна: яна сімпатычная. Сяброючы з ёй, чалавек мае пачуццё псіхічнага камфорту: яна цярпліва выслухоўвае розныя сакрэтныя справы, заўсёды згаджаецца з тым, хто ёй даверыцца, ніколі не стараецца нікога павучаць. Таму ўсе яе вельмі любяць, нават тады, калі нельга на яе занадта лічыць.

Розум ліпы практычны, тэхнічны і дакладны.

Калі трапіць на братнюю душу, то каханне можа вярнуць ёй раўнавагу, сцішыць супярэчнасці. Але ўвага! Занадта моцна развіта ў яе пачуццё ўласнасці. Часта бывае зайздросная нават без прычыны.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ад 1967 года з'яўляюся ўласнікам 4,03 га зямлі. Сам я працую на прадпрыемстве і пражываю ў 15 км ад сваёй зямлі. Часова абрабляю зямлю, але не маю ні каня, ні сельскагаспадарчага інвентара, ні гаспадарчых будынкаў. Таму я не магу абрабіць гаспадаркі як трэба і хацеў бы аддаць зямлю дзяржаве, але не ведаю, на якіх умовах, бо мне 32 гады. Ці можна аддаць зямлю за аднаразовую сплату або на іншых умовах?

* * *

АДКАЗ: Закон з 29 мая 1974 г. аб перадачы ва ўласнасць дзяржавы сельскіх гаспадарак за пенсію і грашовыя сплаты прадбачыць, што калі селянін не мае ўмоў да атрымання пенсіі, так як гэта выступае ў пададзеным прыкладзе, то можа ўсю сваю зямлю, або яе частку перадаць дзяржаве за грашовую сплату. Сплата ўстанаўліваецца паводле цэн, прадбачаных для продажу дзяржаўнай нерухомай маёмасці. Ад належнасці адлічваюцца даўгі на карысць дзяржавы, або грамадскіх установаў: напрыклад, залеглыя падаткі, пазыкі на сельскагаспадарчыя патрэбы і інш., якія паўсталі ў сувязі з гэтай нерухомай маёмасцю.

Калі сплата не перавышае 50 тыс. зл., то належнасць выплачваецца на працягу трох месяцаў ад дня, у якім управамоцнілася рашэнне аб пераняцці дзяржавай нерухомай маёмасці. Надвышка сплачваецца ў гадавых ратах — не большых, чым 50 тыс. злотых у год, з трыма працэнтамі ў год.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое „Сэрцайка"!**

Сябравала я з Віктарам нядоўга, пару месяцаў, бо забралі яго ў армію. Піша ён да мяне пісьмы, у якіх просіць, каб была яму вернай, каб чакала, пакуль вернецца з войска. Гаворыць, што вельмі мяне кахае. Я таксама яго кахаю і было б усё ў парадку, але я пазнаёмілася з Ванем. Было гэта нядаўна на карнавальнай забаве. Узяў танцаваць і так разам гулялі да канца. Ад гэтай пары Ваня да мяне прыязджае. Прызнаўся ў каханні, ды сказаў, што пажаніліся б, толькі я замаладая, бракуе паўгода да васемнаццаці год. Я нічога не адказваю, стараюся змяніць тэму, бо з Віктарам яшчэ перапісваюся, а ён у кожным пісьме прыпамінае, каб чакала яго. Я не ведаю, якога з іх выбраць. Абодвух кахаю.

**Расчараваная Ніна**

**Ніна!** Не вельмі ты, мусіць, ведаеш, што такое каханне. Кахаць можна толькі аднаго, а не двух адразу. Відаць, абодва хлопцы табе падабаюцца, але гэта яшчэ не каханне, а дарога да яго. І цяжка яшчэ цяпер сказаць, да якога хлопца яна павернe. А, можа, яшчэ да нейкага іншага павядзе. І ў такіх абставінах нельга гаварыць аб замужжы. Не спяшайся, цярпліва чакай сігналу сэрца. Яно з часам выбярэ хлопца толькі аднаго.

**„Сэрцайка"**

## Кутох практычных ведаў

### ЯК ЦЯБЕ БАЧАЦЬ, ТАК ЦЯБЕ ПІШУЦЬ

### ПРЫЧОСКІ ДЛЯ СТАРЭЙШЫХ ЖАНЧЫН

Чаму? Чаму нашы старэйшыя жанчыны так мала дбаюць пра свае валасы? Нават самая прыгожая сукенка не ўпрыгожыць жанчыну, калі ў яе будуць расчохраныя валасы і незадбаны твар. Не гаворачы ўжо пра жыхарак вёскі, дык і жанчыны ў горадзе найчасцей дбаюць пра свае валасы толькі ў сувязі з надыходзячымі святамі, а таксама тады, калі запрасілі іх на нейкія імяніны ці іншае сямейнае свята.

А ці не лепш было б спакойна і прадумана прывесці свае валасы ў парадак прынамсі раз на два тыдні, як кажуць, у суботу па рабоце?! Нестаранная ж прычоска з шэрымі, ніякімі і дрэнна астрыжанымі валасамі дадае жанчыне вельмі многа год.

Вядома, што ў апошнія гады вельмі модным стала фарбаванне валасоў. Ці павінна іх фарбаваць старэйшая жанчына? Гэта залежыць ад таго, ці яе натуральныя валасы прыгожыя. Сівыя — таксама могуць мець прыгожае адценне — сярэбранае, і тады варта іх пакінуць, паколькі не кожны старэйшы чалавек мае час і грошы на тое, каб пастаянна фарбаваць валасы.

У кожным выпадку жанчына можа задбаць пра свае валасы сама, пайшоўшы толькі ў цырульню, каб яе прыгожа пастрыглі. Вельмі сухія і матавыя валасы трэба мыць адпаведным шампунам („F", „Піўны", „Яечны").

Сёння вы можаце наглядна ўбачыць, як прыгожа і густоўна можа выглядаць старэйшая жанчына з задбанымі валасамі.

**Сяброўка**





## САКРАТ ЯНОВІЧ

## СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

— Выстраліў чатыры кулі, — ляснік да Грыгатовіч. — Бараніўся ён перад кімсьці, хто ўдарыў яго знянацку. Аслаб ад крывацёку, зблудзіў.

— Тыя стрэлы ад Вярхлесу... — яна не дакончыла. Было ясна.

— З віленскай паліцыі, — ляснік, абшукаўшы труп, разглядаў знойдзеныя пры ім дакументы.

Цела завалаклі ў кусты, закапалі ў наслоенай гурбе. Маўклівелі дрэвы.

Грыгатовіч прашаптала:

— Што цяпер будзе?

Стары, як бы ўспомніўшы аб чымсьці, амаль пабег па крывавай строчцы. Адставала ад яго, ён аддаляўся і аддаляўся. Урэшце, у праблісках ночы, перастала ўлоўліваць зрокам рух за ім. Хацела закрычаць; голас толькі тлеў недзе ў горле. Пагразаючы па пояс, валаклася, абціраючы клейкі пот. Потым ужо не мела сіл падняць вачэй. Прыкмячала чорныя крапінкі, якія фастрыгавалі глыбачэзныя сляды, і таго было ёй дастаткова.

Раз і другі закруцілася ў галаве. Шчасце, што навокал ёлкі і ёсць за што ўхапіцца, патрымацца хаця б рукою за галіну. Знямоглая, брыла праз пушчу, убраную па-зімоваму, і не мела пэўнасці, ці калісьці выйдзе з яе? Падала, давячыся снегам і кашляючы да болю ў грудзях. Страціла памяць, але не зусім, каб не замерзнуць: боязь бяссэнсавай смерці падганяла Грыгатовіч. „Больш не магу, ні кроку! Не магу, не і не! Я ж жанчына, слабая, змілуйся нада мною, лесе дрымучы, дрэвы чорныя..." — малілася.

Калі ізноў убачыла Вільдовіча, ведала, што здарылася страшнае!

— Божа мой! — каля яго ляжаў чалавек. На месячных пацёрках марозу блішчэў нож, ля расшчэмленай правай рукі, пажаўцелай.

Ляснік, без шапкі, натхнёна хрысціўся.

— Не пакінем яго тут, — моцна падняў чалавека ў кажусе.

Грыгатовіч пазнала:

— Дзядзька з Махнача! — прарвалася ў ёй.

Налева ад гэтага месца прасціралася паляна.

Нарэзалі арэшніку і маладых бярозак, і — уплятаючы ялінавыя галіны — звязалі пасцелішча з аглаблінамі. Дапамагла Вільдовічу ўскласці на тое забітага дзядзьку.

Ад пахвіны цераз жывот да грудзей рассёк Грыгатовіч рэзкі боль. Яна перамаглася.

— Ціха-а, — Вільдовіч замёр на месцы.

У насцярожанай цемені загула казацкая каманда.

І бліжэй.

* * *

У Вільні сышчыкі збіваліся з ног: мужчына, які заходзіў да Марыі Грыгатовіч, не паяўляўся.

Ён у той час ішоў ад Гарадка, уздоўж гасцінца, лесам. За ўрочышчам Перацёсы падзьмула адліжным холадам і трэба было паставіць каўнер у кажусе, што і абмяжоўвала чуйнасць.

Нідзе нікога.

Нельга ўявіць сабе нічога болей сумнага ад імглы ў лесе, цяжкай, што бадзяецца па прасеках ды пералесках, і якой няма чаго рабіць: прыносіць пахі кастрыцы ды грыбоў, зблізку.

Як жа жыць у лесе з такою імглою? Як доўга?

Раніцай, слухаючы гутарку каваля з Пілатоўшчыны аб пастраляных сялянах і войску польскім, якое на прадвесні 1831 года адыйшло ў нетры Белавежы, думаў аб будучыні паўстання. Аб тым, што патрэбны ўсё-такі невялікія атрады. Яны павінны хавацца на сухіх грудах, пабудаваўшы на іх падземныя кватэры, пад карэннямі дрэў, паблізу крыніц. Ваяваць трэба не бітвамі, але страхам: няхай спазнаюць яго тыя, хто не ў сваім доме. Вайну расцягнуць на гады... Паўстанне ўзнята зарана, не падрыхтавана яно, як след...

Праімчала вавёрка; спуджаная трэскам, чужым, нырнула ў яліну.

Ён, выхапіўшы пісталет, прысеў за ядлоўцам: трэск набліжаўся.

Гэта зубр там, без спеху прасунуўся ён у бярозавую лагчыну. Важна, не азіраючыся.

Кароткі дзень хмурыўся і вечарэў. Макарэвіч разлічыў, што ля Плябанаўшчыны пяройдзе пасля таго, калі ў гаспадарках дагледзяць жывёлу і па хатах пачнуць кладавіцца спаць. Пяройдзе пустою дарогаю.

Ад Плябанаўшчыны да Крынак — шмат высрубанага лесу. Паблізу двара можна надыйсці на дрывасекаў або каго са службы. Хіба, што полем...

Да пуні Антошкі Яновіча ў Крынках дабраўся апоўначы.

Заснуў у адзенні.

Прачнуўся пры першых пеўнях. Успацелы, даходзіў да памяці пасля жудаснага сну: ваўкі адбягалі з яркіх не расплюшчаных вачэй у Лапіцкія яры. Пакуль не зніклі. Пеўні спявалі галасней, іх галасы згарланіліся ў шайку.

Штосьці пасыпалася. Суха ў гэтым духотным логаве. Спрабаваў намацаць сноп, што затыкаў уваход: вымалачаны, гладзенькі. За ім поўзала сцюжа, хапала за пальцы. А пеўні крычалі галасней, на падабенства трывогі, якая пераўтваралася ва ўсеагульны лямант. Ваўкі вельмі адбегліся...

# ТРЫБУНА чытачоў

## І яшчэ пра тое ж самае

Нядаўна хтосьці з жыхароў вёскі Чыжы напісаў у „Ніву“ пра клопаты, якія перажываюць тут людзі, каб даехаць у Гайнаўку аўтобусам. Нядаўна пачаў ездзіць яшчэ адзін аўтобус, але і той не вельмі хоча забіраць людзей. Ды не толькі ў тым справа.

Вось часта бываюць у аўтобусе тым кандуктары, якія маюць „голавы да заробкаў“. Напрыклад, у сераду — таргова дзень у Гайнаўцы. На прыпынак прыходзіць вельмі многа людзей, і кандуктары ў гэты дзень узбагачаюцца грашыма за „прададзеныя“ білеты. Яны забіраюць грошы, а білетаў не даюць. А людзі, едучы, баяцца, бо бываюць кантролі, і шкада плаціць 100 зл. за чужое махлярства.

Ці ж справядліва гэта? Ці можна так ашукваць і дзяржаву і людзей?

„Мгла“




### КАМУСЬ

Ціхі вечар над намі,
Месяц шэпча: „Я з вамі“.
Так ціхенька і свойска
Зоркі ў шэрагу, як войска.

У бляску зорак цень твой,
Чаму з ім яшчэ не мой?
Так весела наўкола,
Мы не будзем разам болей?

**Майка**

* ❊ *

### ЗАГУБЛЕНАЯ НАДЗЕЯ

*Не знаю сама*
*сон гэта ці праўда*
*быў ты ці не быў*
*зіма сёння ці не*
*меў жа ты імя*
*ой не памятаю*
*так даўно было*
*так хутка ўсё прайшло*
*скажы ты кахаў*
*ці цалаваў мяне*
*я забыла ўжо*
*ой як сэрца баліць*
*кахання позірк*
*і сілуэты слоў*
*гэта можа ты*
*я бягу да дзвярэй*
*адчыняю іх*
*гэта вецер свішча*
*нікога няма*
*як цяжка паверыць*
*што ты адыйшоў.*

**Жэня Аўсенюк**
Бельскі эканамічны ліцэй

## Механізацыя і культура

Многія сяляне з КрывяцІч у апошні час пачалі механізаваць свае гаспадаркі. Уладзімір Будко, Мікалай Гаворка і многія іншыя, апрача машын для дамашняга карыстання, пакуплялі трактары з саставам машын. Вялікі размах мае новае аднасямейнае будаўніцтва. Будуюць жыллёвыя мураваныя дамы, таксама мураваныя хлявы і клуні. Сяло прыгажэе. На вуліцах прыгожае асвятленне, бетонныя тратуары, каля святліцы пасадзілі зялёны астравок — 40 дрэўцаў.

**Іван Кірызюк**

## Дзіўны звычай

У Чаромсе ёсць пункт скупкі бутэлек, які падлягае кляшчэлеўскаму ГС-у. Гэта адзіны пункт на ўвесь пасёлак. Сюды таксама прыносяць прадаваць бутэлькі многія кузаўцы. Працаўніца пункту ўвяла дзіўны звычай. Калі нехта прыносіць большую колькасць бутэлек, бярэ ад кожнага па адной, дзве, а нават і тры бутэлькі на так званую „стлучку“. Людзі бунтуюцца, а яна адказвае, што бышцам усюды такія правілы.

Калі бутэлька каштавала 1 зл., дык не звярталі мы на гэта ўвагі. Цяпер, аднак, справа маецца інакш. Чаму ў Чаромсе такія дзіўныя звычаі, што працаўніца не выплачвае грошай за ўсе прынесеныя бутэлькі? Ці сапраўды няма на гэта ніякай рады? (м-ка)

## У ТЫМ І БЯДА

Дарогі ў нас наогул нядрэнныя. Але каб прыгожа яны выглядалі, каб былі абсаджаны дрэўцамі, гэта неяк не выходзіць. Пры дарогах тырчаць адны пні, сухія, або крывыя дрэўцы, а стройныя таполі выразаны.

Некаторыя не шкадуюць дрэўцаў. Ім даражэй каробкі, на лыка для якіх нішчаць дрэўцы. Былі выпадкі, што браканьераў даводзілі па следу і знаходзілі ў іх украдзеныя таполі. Яны аднак выкручваліся. А іншыя, бачачы бяскарнасць, і самі нішчаць народнае багацце.

**М. Панфілюк**

## У ШКОЛЕ

Дырэктарам школы ў Чыжах з'яўляецца Эдвард Бай. У школе гэтай весела і прыемна. На вялікім перапынку ўсе вучні робяць фізкультурную зарадку. Адбываецца яна пры музыцы.

Школьны пляц для гульняў чысты і ўпарадкаваны. Хоць школа чыжоўская невялікая, выглядае яна прыемна. Гэта ж новая школа.

Жыхары нашага сяла, якія не закончылі васьмі класаў пачатковай школы, вечарам могуць вучыцца. Чакаюць цяпер усе дабудавання іншых будынкаў школы і гімнастычнай залы.

**Анатоль Ціханюк**

## Заўжды наперадзе

Белавежскі гурток ЗБоВіД налічвае 38 членаў. З выпадку 30-годдзя ПНР яны накіравалі заклік да ўсіх ветэранаў, каб актыўна ўключаліся ў грамадскую працу для ўтрымання парадку і чысціні ў сваіх мясцовасцях.

Белавежскія збавідаўцы самі прымаюць удзел у шматлікіх працах. Свайго часу працавалі 480 гадзін пры пабудове дарогі з Белавежы ў Пагарэльцы. Капалі равы, карчавалі лес. Усяго выразалі 1.711 дрэў. Тыя члены, якія маюць свае гаспадаркі, вырашылі выгадаваць па адной штуцы больш свіней. Яны сваё абавязацельства выканалі.

Гурток супрацоўнічае з моладдзю. Арганізуе сустрэчы, на якіх ветэраны расказваюць пра свае баявыя шляхі. Памагаюць стварыць у пачатковай школе куток нацыянальнай памяці, якому ахвяравалі многа экспанатаў. Другі, ужо не куток, а вялікі пакой, арганізавалі ў Лясным тэхнікуме. Урачыстае адкрыццё прадбачваецца на 9 мая — Дзень Перамогі. Збавідаўцы апякуюцца таксама шматлікімі помнікамі барацьбы і пакутніцтва. У доказ пашаны, грамадства ўручыла белавежскаму гуртку сцяг. Было гэта 10 верасня 1972 года, падчас мітынгу сяброўства з народамі СССР.

Варта адзначыць, што гуртком ЗБоВіД у Белавежы кіруе ўжо пятую кадэнцыю Мікалай Шпаковіч.

**Пётр Байко**

## ЗЛОДЗЕЙ ЧАСУ

Большасць жыхароў вёскі Слабодка пакупляла ўжо сабе злодзеяў часу. Злодзей часу — гэта тэлевізар.

Калісьці, калі ў вёсцы не было электрычнасці, у людзей у зімовыя вечары было многа заняткаў. Яны плялі лазовыя кошыкі, сходзіліся на вечарынкі, чыталі кніжкі, ігралі ў карты. Цяпер людзі сталі менш чытаць, менш спаць і ўвогуле час бяжыць, як быстрая вада, і ўсё не хапае яго. Такім чынам, за электрычнасцю прыйшоў у вёску злодзей часу.

**Бярозка**

## Пошта ў Орлі — узорная

„Орля — гміна ўзорная“ — так пісала „Ніва“ ў 4 нумары гэтага года. Але ці толькі гміна тут узорная?

Зайшоў я на пошту ў Орлі і пацікавіўся яе справамі. На пошце было чыста, цёпла і ўтульна. На сценах лозунгі і патрэбныя інфармацыі. На стале ў начальніка стаіць пераходны сцяг дырэктара ОУПТ у Бельску-Падляшскім за I месца ў спаборніцтве паміж поштамі ў павеце.

— Заваяваць I месца не было так лёгка, — гаворыць начальнік пошты Ніна Грыгарук, — але дзякуючы амбітным супрацоўнікам, як Антаніна Рагоза, Ніна Петручук, Іраіда Русіновіч, Надзя Галаўня, Вера Мураўская, пісьманосцы — Мікалай Лапух, Павел Корзун, Васіль Орда і манцёр Раман Вялічка — здабылі I месца і думаем утрымаць яго. Гэта будзе вядома ў красавіку 1975 г.

Пісьманосец Мікалай Лапух таксама заваяваў першае месца індывідуальна.

Такіх пісьманосцаў, як мае Орля, не мае ніводная пошта ў павеце, а нават у ваяводстве. Калі дзе ёсць, напішыце.

З размовы з арлянскімі пісьманосцамі вынікае адзін вывад: іх дасягненні вялікія, але замала прапагандуюць яны, як на іхнія ўмовы, „Ніву“. Трэба адзначыць, што на люты падпіска „Нівы“ павялічылася на 15 экземпляраў, але ёсць поўная магчымасць павялічыць падпіску „Нівы“ ў Арлянскай гміне да 200 штук (цяпер у іх 166 экз.).

Асада Орля і навакольныя вёскі, як Шчыты-Навадворы, Шчыты-Дзенцялова, Крывяцічы, Рудуты, Шэрні, Кашалі, Спічкі, Парцава, Вулька і Міклашы — гэта вёскі, дзе „Ніву“ прымаюць з радасцю, трэба толькі яе выпісваць.

**Э. Вайсковіч**





## Беларускі каляндар на гайнаўскіх вёсках

Вялікай папулярнасцю на Гайнаўшчыне карыстаецца Беларускі каляндар на 1975 год. Насельніцтва павету ведае, што каляндар гэты можна купіць у кожнай школе. У адрас аддзела БГКТ прыходзіць многа пісем, звоняць тэлефоны з просьбай прадаць каляндар. Многія прыходзяць і на месцы ў аддзеле купляюць каляндар.

Жыхарам вёскі Палічна паведамляем, што каляндар яны могуць купіць у школе ў Старыне і Дубічах Царкоўных. У школе ў Палічнай, на жаль, каляндароў няма.

Гайнаўскі аддзел БГКТ сардэчна дзякуе ўсім, хто памагае распаўсюджваць Беларускі каляндар і асабліва ўсім нашым настаўнікам за іх дапамогу.

**Віктар Бура**
Сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ

## РАСТУЦЬ РАДЫ

Расце наша сям'я. Нядаўна праўленне гуртка БГКТ у Тарнопалі прыняло ў свае рады 13 новых членаў. Дзейнічаюць яны дружна ў прыгожым Клубе селяніна, абсталяваным ГС-ам у Нараўцы. Клуб быў адкрыты пры вялікай дапамозе гайнаўскага аддзела БГКТ.

(вб)

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### У СПРАВЕ ДАРОГ ВЁСКІ НАВІНЫ

**Адказвае: Powiatowy Zarząd Dróg Lokalnych w Hajnówce.**

Po wnikliwym rozpatrzeniu sprawy zamieszczonej w czasopiśmie „Niwa” z dnia 5 stycznia 1975 roku Nr 1(984) i analizy innych wystąpień Obywateli wsi Nowiny do władz administracyjnych w sprawie budowy drogi Kotłówka-Nowiny-Rzepiska tutejszy Zarząd stwierdza, że mieszkańcy Nowin chcą wymusić drogą korespondencyjną na Zarządzie, by wybudował bez ich udziału potrzebny im odcinek drogi.

Droga ta w zasadzie, jak wiele innych budowanych w czynie społecznym, mogła być w tym roku oddana do eksploatacji, gdyby mieszkańcy zamiast narzekać i pisać wzięli się do uczciwej pracy.

W roku 1973 Zarząd rozpoczął na prośbę mieszkańców obu wsi — Koweła i Nowiny uporządkowanie tej trasy, najpierw na najgorszym odcinku Nowiny-Koweła, następnie na pozostałym Kutowa-Nowiny i Koweła-Rzepiska. Niestety, do robót czynowych ze wsi Nowiny nikt nie wyszedł, zaś ze wsi Koweła przybył sołtys z kilkoma mieszkańcami. Odcinek długości 1,2 km po wielkiej gimnastyce finansowej Zarząd wybudował wykorzystując oszczędności z funduszu gminnego z innych budów.

Do dziś jeszcze nie ułożyli mieszkańcy rur na zjazdy na pola, które dostarczył Zarząd.

Po takim doświadczeniu PZDL nie ma zamiaru powtórnie wchodzić z robotami aż Obywatele wsi Nowiny i Koweła nie zechcą wykonać zobowiązań tj. okopać całkowicie odcinek drogi w czynie społecznym i dowieźć w 50 proc: potrzebną ziemię na nasyp. Resztę robót za gotówkę wykona Zarząd na zlecenie Urzędu Gminnego w Narwi gdyż Urząd ten jest zleceniodawcą i stroną finansującą roboty.

Stanowisko Zarządu i Urzędu Gminy jest zgodne. Wszystkie drogi w powiecie są budowane w czynie przy licznym udziale zainteresowanej ludności i lokalizuje się je tam, gdzie jest pomoc ze strony mieszkańców wsi.

Dla ułatwienia wykonania robót ziemnych na wspomnianej trasie Zarząd oderwał ciągnik gąsienicowy marki T100M z pilnej budowy, by ułatwić pracę i przyjść z dalszą pomocą Obywatelom wsi Nowiny, niestety to nie zostało docenione i żąda się by i resztę robót wykonał kto inny.

Mała wioseczka Borek w gminie Hajnówka potrafiła w ciągu kilku dni okopać odcinek drogi o długości 1.0 km, lub dla przykładu — koloniści wsi Nowokornin zebrali 18.000 zł w roku ubiegłym i każdą niedzielę i święto pracowali przy kopaniu rowów i rozładunku przyczep ciągnikowych, by tym sposobem zadokumentować swój stosunek do czynu. To samo biorąc przykład z dobrych Obywateli winni zrobić mieszkańcy Nowin, a nie biadolić. Zarząd otrzyma w roku bieżącym z Urzędu Gminnego 50.000 zł i naprawi odcinek drogi długości 200 m Koweła-Rzepiska, by można było dowieźć nawozy i inne materiały do wsi.

Niemniej jednak, jeżeli mieszkańcy chcą mieć dobry dojazd do wsi, winni ubiegać się w Urzędzie Gminnym, by zlecił dla PZDL Hajnówka opracowanie dokumentacji technicznej i przydziału w roku 1976 potrzebnych kredytów na wejście z robotami na ten obiekt.

W roku bieżącym w ramach czynu na zlecenie Urzędu Gminnego w Narwi będą budowane dwie drogi Chrabostówka — Kutowa i dojazd do wsi Przybudki. Oba odcinki są ważne dla gospodarki Gminy.

Należy zdać sobie sprawę również z tego, że o lokalizacji robót decyduje Urząd Gminy w Narwi i Rada Gminna, a nie Powiatowy Zarząd Dróg Lokalnych i Kierownik.

Kierownik
Powiatowego Zarządu Dróg Lokalnych
Włodzimierz Antosiuk

---

Захацелася пастаяць: з логава запоўз Макарэвіч у патайны пераход да азярышча. Вылез на свежае паветра. Пад сцяною шахацеў трыснёг, высокі, бы мак. Заенчыў ды залапатаў крыламі певень, Антошкі. Сіпла, застуджаным выкрыкам, не па-свойму, аж падумалася аб нейкім папярэджанні.

У кагортах імглы наваколле падвойвалася. Сыпаўся дожджык, па-плятнарску дробны, ад якога цверазела ваколіца, галасіла. З-над азярышча патыхала вільгаццю ды рыбаю.

Ля вугла пуні — ён чутней: вуліцаю нехта шлёпае з лучынаю, полымя ад яе ненатуральна нерухомае, быццам месяц перад завірухаю. Спеў пеўняў заціхаў на Акопах і Пагулянцы, і ў хлявах Шамрухевічаў. Заціхаў, як заўчасная паніка.

Той, з лучынаю поначы, хто ён? Карцёжнік? Сябра п'яніцы Бурылы, аптэкара?

Паплёўся да рынку.

„Да раніцы трэба яшчэ паспаць, — Макарэвіч. — У тую непагадзь смачна спіцца...“

У яго сны прыйшла зіма, яе першы снег, далёкі; ганяліся ад Мастаўлян да Свіслачан, цераз багну над Свіслаччу, на якой гнуўся лёд ды патрэскваў маланкаю ў заполлі. Смяяцца, не насмяяцца! Каваль Клімовіч рабіў чарадзейныя каўзачы...

Закрычалі: — Макарэвіч!... Ма-ка-рэ-віч!!...

Разявіў рот, каб закпіць: — Я не з'яўляюся Макарэвічам! Хто вам сказаў, што я з'яўляюся якімсьці Макарэвічам?! А вы і паверылі, ха-ха-ха...

З натугаю гамаваў сон і выплываў на паверхню свядомасці.

Антошка Яновіч стаяў перад ім вялізнаю куніцаю.

Яго губы варушыліся. — Пане Макарэвіч!.. Макарэвіч!

Развіднела.

— ...Уночы хадзіў жандар! — нарэшце апарыла хваляванне Антошкі.

— Рабіў вобыск?

— Не. Толькі хадзіў па вуліцы, нюхаў. У шаўца Антыфона ўзяў лучыну... Кажуць, рота салдат ідзе з Саколкі...

Сетка кальпартажнікаў, створаная Антошкам Яновічам, засталася некранутай. Арышты пайшлі бокам. „Мужыцкую праўду“ магчыма будзе дастаўляць у Гаркавічы цераз Кішкелёў, у Сухінічы цераз Цілюльку, у Астровак цераз Кулакоўскіх, у Піражкі цераз Карпачоў, у Гураны цераз Міраноў, у Плянты цераз Пракопчыкаў...

У Вільню вярнуўся Макарэвіч назаўтра; да станцыі ў Гродна даехаў з абозам жыдоў-гандляроў, якія праз Разбойнік і Служкі везлі мануфактуру Ліпхарта. Гаварылі, што па лясах хаваецца вялікае, беларускае войска, якое рыхтуецца выглуміць, увесну, наезнікаў. Макарэвіч слухаў ды пасміхаўся ў задуменні.

А чацвёртай пасля абеду, у дзверы ягонай кватэры, што ў Святаянскіх мурах, пастукала стройная паненка.

Яцына.

(Працяг будзе)

NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch” Indeks 36911/36671.

